РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

*Жыве Беларусь!*

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Free Hlybokaye · Volne Glebokie

*Дык жа́ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
*Янка Купала.*

Выдаецца са снежня 1994 года | №8 (40), красавік, 2000 года | Кошт па дамове

## ЦЫТАТА НУМАРА

**Глядзіце, вунь зярно й мякіна,--**
**Навука, як на свеце жыць...**
**Адзін жыве і след пакіне,**
**Другі жыве, каб наслядзіць.**

## БРАКАНЬЕРЫ З ГЛЫБОКАГА

**Цікавы выпадак назіралі раніцай 3 красавіка жыхары гарпасёлка Варапаева, якія спяшаліся на працу. Паблізу будынка мясцовага ўчастка міліцыі Пастаўскага РАУС гарэлі на агні каля 400 метраў рыбалоўных сетак, забраных у браканьераў.**

Гэтыя незаконныя прадметы лову напярэдадні абяцалі багатую юшку групе рыбакоў, якія закінулі нерат на возеры ля в. Гута. Рэйдавая брыгада з Пастаў, узмоцненая трыма ўзброенымі міліцыянерамі, моцна здзівілася, убачыўшы сярод затрыманых кіраўнікоў раённага звяна з Глыбокага, старшага афіцэра міліцыі, вядомага ў акрузе прадпрымальніка і іншых асоб. Былі складзены пратаколы на 7 парушальнікаў заканадаўства аб ахове прыроды, у якіх ёсць час аспрэчыць пратаколы, або, карыстаючыся сувязямі, паспрабаваць «замяць» гэту справу.

Дарэчы, летам 1998 года тут ужо затрымлівалася іншая група высокапастаўленых глыбоцкіх рыбакоў. Суд пакараў тады двух браканьераў штрафамі.

**Уладзімір Раманчук,**
***«Витебский курьер»***

## ДАПАМОЖАМ БІБЛІЯТЭКАМ

Праўду кажуць у народзе: «Дзе коратка, там і рвецца». Фінансавых сродкаў сёння катастрафічна не хапае, як у сем`ях, так і на прадпрыемствах, заводах, калгасах, ва ўстановах аховы здароўя, адукацыі і культуры.

Тая ж праблема і ў бібліятэчнай сістэме. Кніжны фонд папаўняць няма за што, але кожнаму чытачу гэтага не растлумачыш. Вось і вырашылі супрацоўнікі раённай бібліятэкі распачаць дабрачынную акцыю па збору кніг. І чытачы пацяху адгукаюцца. Сёння **мы звяртаемся да ўсіх нашых чытачоў і сталых наведвальнікаў бібліятэк раёна з просьбай адгукнуцца і дапамагчы папоўніць кніжны фонд кнігамі з Вашых уласных бібліятэк.** У многіх, ведаем, кнігі чытаныяперачытаныя, у некаторых, можа, наогул не чытаныя і пыляцца на паліцах -- яны б маглі знайсці свайго чытача, калі б трапілі ў бібліятэкі. Кнігі мастацкія, краязнаўчыя, гістарычныя, зборнічкі паэзіі і прозы будуць з удзячнасцю прыняты супрацоўнікамі бібліятэк раёна.

**Г. Сутула**

## У Паставах на чале «вертыкалі» жанчына

Новым старшынёй Пастаўскага райвыканкама 31 сакавіка **рашэннем кіраўніка дзяржавы** (заўважце, не сесіяй райсавета, не пастаўчанамі) прызначана першая ў вобласці жанчына -- кіраўнік раённай «вертыкалі» Ванда Януковіч. Да прызначэння на пасаду яна была памочнікам загінуўшага ў аварыі В. Чэпіка. Яна мясцовая, па прафесіі эканаміст. Кар`еру пачынала ў калгасе «Чырвоны сцяг», была намеснікам старшыні райвыканкама. У апошні час займалася пытаннямі развіцця прамысловасці раёна.

Напярэдадні яе прызначэння ў газету «Пастаўскі край» прыйшло пісьмо з прапановай прызначыць кіраўніком раёна аднаго з пастаўскіх свяшчэннікаў.

Дарэчы, В. Януковіч наведвае касцёл пасля траўмы, атрыманай у аўтамабільнай катастрофе ў час камандзіроўкі. Муж старшыні райвыканкама працуе ў райсельгасхарчы, курыруе жывёлагадоўлю. У гісторыі Пастаўшчыны Ванда Януковіч не першая жанчына-кіраўнік. У 70-ыя гады райкамам партыі тут кіравала В. Клачкова. Зараз у Беларусі ўжо тры жанчыны, якія стаяць на чале раёнаў.

**У. Шык**



Фота Ул. Скрабатуна

Рамантычныя куточкі Старога Глыбокага! Тут кожны камень, кожны мур дыхае гісторыяй. У сваёй біяграфіі вуліца М. Горкага не раз мяняла назоў. Была яна і Копцеўскай, і Дзісненскай, і вул. імя Г. Сянкевіча, а пры немцах -- «Фрыдрых штрассэ»... Старажылы сцвярджаюць, што сярэдні дом (на здымку) пабудаваны ў «амерыканскім» стылі, бо гаспадар некалі ездзіў на заробкі ў Амерыку і прывёз гэтыя рысы архітэктуры з Новага Свету.

**Сенсацыйную, найперш для жыхароў Глыбокага, заяву зрабіў Алег Трусаў у газеце «Наша Ніва». Яго хвалюее лёс скарба з 630 залатых манет, якія знайшлі некалі ў нашым горадзе.**

## ХТО ЎКРАЎ ГЛЫБОЦКАЕ ЗОЛАТА?



У свой час, калі я стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета 12 склікання, я зацікавіўся лёсам тых каштоўнасцяў з золата і срэбра ды іншых каштоўных металаў, якія з тэрыторыі БССР вывозіліся ў Маскву. Спачатку я зрабіў афіцыйны запыт ў Дзяржаўнае сховішча каштоўнасцяў (Гохран СССР) пры Міністэрстве фінансаў СССР і атрымаў адтуль 9 чэрвеня 1991 года афіцыйны адказ пра знаходжанне там двух унікальных скарбаў манет, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі.

Самы знакаміты з іх -- гэта Бяльніцкі скарб, знойдзены ў 1977 годзе, які складаўся з 225 залатых манет.

**Другі скарб налічваў ажно 630 залатых манет, ён быў знойдзены ў Глыбокім на Віцебшчыне.**

У адпаведнасці з міжнародным законам аб рэстытуцыі каштоўнасцяў, мы маем поўнае права патрабаваць ад Расіі вяртання гэтых скарбаў.

Крыху пазней я атрымаў ад МУС Беларусі падрабязны спіс скарбаў манет і ювелірных вырабаў, якія з 1964 па 1991 гг. МУС накіроўваў у «Госхран СССР». За гэты час беларускія каштоўнасці вывозіліся ў Маскву 36 разоў, прычым колькасць вывезеных адзінак склала 2008,5. Цікава, што ў гэтым спісе няма скарбаў з Бяльніч і Глыбокага. Значыць, вывозілі наша золата ў Расію не толькі прадстаўнікі МУС Беларусі, але і іншыя міністэрствы і ведамствы...

**Алег Трусаў.**

**PS.** *У свой час наша газета ўжо звярталася да тэмы глыбоцкіх скарбаў* (**«ВГ», №2-3 (7-8)// 1997 г., «Дзе закапаны скарб»**)*. Выглядае так, што Глыбокае не толькі «горад сярод магіл», але свайго роду «El Dorado». Варта толькі капануць рыдлёўкай на сваім гародзе. Каб не кралі наша золата, то, магчыма яго хапіла пабудаваць на месцы Глыбокага «Горад Сонца», не кажучы ўжо пра новы стадыён!*

*Мы трымаем гэтую тэму на кантролі. Аб новых знаходках і дакументах мы паведамім нашым чытачам у наступных нумарах «ВГ».*




Глыбокае, 25 сакавіка 2000 года, Дзень Волі.

Фота Ул. Скрабатуна

"ВЯСНА `2000" -- ТВАЯ ВЯСНА!

## Хто намі кіруе?

* Прэм`ер-міністр Беларусі У. Ярмошын -- выхадзец з Расіі.
* Першы віцэ-прэм`ер Беларусі Кабякоў -- выхадзец з Расіі.
* Віцэ-прэм`ер, міністр замежных спраў Беларусі У. Латыпаў -- выхадзец з Расіі.
* Віцэ-прэм`ер па культуры і адукацыі, палкоўнік Замяталін -- выхадзец з Расіі.
* Міністр абароны Чуйкоў -- маскоўскі генерал.
* Міністр адукацыі Стражаў -- выхадзец з Расіі.
* Міністр унутраных спраў Ю. Сівакоў -- маскоўскі генерал.
* Намеснік старшыні КДБ Ерын -- маскоўскі генерал.
* Міністр юстыцыі Варанцоў -- выхадзец з Расіі.
* Галоўнакамандуючы унутранымі войскамі Беларусі Жадобін -- маскоўскі генерал.

## НОВЫ АМЕРЫКАНСКІ ПАСОЛ МАЕ БЕЛАРУСКАЕ ПРОЗВІШЧА

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан назваў імя новага пасла ў Беларусі, які ў чэрвені зменіць на гэтай пасадзе Дэніэла Спекхарда.**

Да нас прыедзе Майкл Козак ( як па-беларуску -- Міхась Казак), які да нядаўняга часу ўзначальваў амерыканскую місію ў Гаване. Як кажуць, дзве навіны ў адной -- прыемная і не вельмі. Цудоўна, калі пасол з паходжання наш зямляк, але краіна ягонай папярэдняй дыслакацыі -- Куба. Гэты факт лішні раз сведчыць аб цяперашнім месцы Беларусі ў свеце.

**А.К.**

## За пляшку гарэлкі -- на той свет

**Колькі ні кажы, што ў гарэлцы згуба, не верыць наш просты чалавек.**

Адзін наваполацкі слесар з мясцовага завода жалезабетонных вырабаў вырашыў даказаць, што не пераявіліся «волаты» на Беларусі. Паспрачаўся з таварышамі, што залпам вып`е пляшку гарэлкі. Спрэчку гарачы беларускі слесар выйграў. А вось лекарам ягонае жыццё выратаваць не ўдалося. Доза аказалася для «волата» смяротнай.

**А. Аляксандраў.**

Шыхт, зважай! Крокам руш!

# ГРАНДЫЁЗНАЕ ВІДОВІШЧА

## НАВАГРАДАК `2000

### ФЭСТ СЯРЭДНЯВЕЧНАЙ КУЛЬТУРЫ

**Паважаныя чытачы «Вольнага Глыбокага!».** Мы зноў вырашылі звярнуць Вашу ўвагу на тыя падзеі ў культурным жыцці нашай краіны, якія адбудуцца ў чэрвені бягучага года. Як мы ўжо паведамлялі, сёлета 24-25 чэрвеня адбудзецца **Фэст сярэднявечнай культуры «Наваградак `2000».** Гэта мерапрыемства з`яўляецца святам беларускай культуры, беларускага рыцарства. З 1 сакавіка 2000 г. пачаў сваю працу афіцыйны сайт фэсту. Ён будзе паведамляць аб кожным кроку па правядзенню свята, збярэ ўсе звесткі аб Наваградку -- першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, дэталёва раскажа аб праграме свята, яго ўдзельніках. Па стану на на сакавік маем наступныя звесткі аб свяце. 24-25 чэрвеня больш 200 рыцараў з розных краін прымуць удзел у тэатралізаваным відовішчы. Яны вернуць старажытны Наваградак у XIV стагоддзе.

Два дні былая сталіца будзе жыць падзеямі 1314 г., калі вялікае войска крыжакоў на чале з магістрам Генрыхам фон Плоцке ўзяло ў аблогу Наваградскі замак.

Дзеля таго, каб стварыць атмасферу тых далёкіх часоў, будзе дабудавана вежа «Дазорца» і



частка замкавых муроў. У час аблогі рыцары-"тэўтоны"будуць весці абстрэл "ліцвінаў" з каменямётаў, штурмаваць больш чым 20-метровую Замкавую гару. Цікавымі мерапрыемствамі будзе правядзенне 24 чэрвеня бугурта, масавай коннай бітвы, і вялікага канцэрта з выкарыстаннем піратэхнікі.

Заявы на ўдзел у свяце падалі 20 рыцарскіх клубаў з Полацка, Магілёва, Брэста, Мінска, Ліды, Рыгі, Арэнбурга, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Саратава і Котласа. Звыш 160 рыцараў заявілі аб сваім жаданні ўдзельнічаць у рыцарскіх баях. Усе ўдзельнікі свята будуць жыць у рыцарскім лагеры. Ужо абраны каштэлян рыцарскага стану -- вольны рыцар Антуан (Антон Піменаў) з г. Мінска.

І апошняе. Жыхароў і гасцей Наваградка чакае шэраг яскравых і запамінальных сюрпрызаў, якія арганізатары Фэсту трымаюць пакуль у таямніцы.

На жаль, Глыбокае не зможа сёлета прыняць удзел у гэтым цікавым мерапрыемстве хоць запрашэнне мы атрымалі. Пакуль яшчэ культурнае жыццё нашага горада не ідзе далей адзначэння свят традыцыйна камуністычнага кшталту, а ідэяй стварэння рыцарскага клуба пакуль цікавяцца толькі некалькі энтузіястаў. І ўсё ж «Вольнае Глыбокае» запрашае ўсіх жадаючых глыбачан і суседзяў з іншых раёнаў на гэтае захапляльнае відовішча. **Наваградак `2000 - сустрэнемся там!**

**Аляксандр Шэлепень, гісторык.**

**Кант. тэл.: 2 12 74**

## З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ!



Ганна Леанідаўна Васілеўская працуе выкладчыцай рускай мовы і літаратуры ў СШ№2 г. Глыбокага. Яна -- класны кіраўнік 10-Б. Клапатлівая маці і бабуля. А яшчэ яна маладая, прыгожая жанчына, якая ў красавіку адзначае свой дзень нараджэння. Менавіта з гэтай датай яе віншуюць колішнія вучні, былыя выпускнікі, і мы, супрацоўнікі «Вольнага Глыбокага». Жадаем Ганне Леанідаўне здароўя, асабістага шчасця, паслухмяных і ўдзячных вучняў, сямейнага дабрабыту. Няхай вясна будзе Вашай сяброўкай і спадарожніцай усё жыццё, а Ваша прыемная, мілая ўсмешка дорыць добры настрой акружаючым.

Ну і ну !!!

## Папугай у ролі міліцыянера

Прадпрымальнік з Віцебска Л. Дубінскі набыў нядаўна ў Маскве папугая за 500$. Набыў не з рук, а па аб`яве ў рэжысёра тэлеканала НТВ А. Самсонава. Ружовы какаду, заўсёды вельмі дарагая птушка, прайшоў «курс навукі» ў лепшага парадыста праграмы «Куклы» у вядомага маскоўскага артыста С. Бязрукава і навучыўся не толькі мяняць галасы, але і стаў першым сярод папугаяў уладальнікам голаса прэзідэнта Беларусі. Пра гэтага вучонага «спеца» не ведалі злодзеі, якія адной ночы залезлі ў кватэру прадпрымальніка. Гаспадара дома не было. Клетка з папугаем вісела над уваходнымі дзвярыма і дастаткова было, адчыняючы дзверы, крыху пагойдаць «жыллё» какаду, як ён пачынаў «выступаць». Не паспелі рабаўнікі пераступіць парог кватэры, як пачулі над галовамі грозны мужчынскі голас: «Жульё! В тюрьму!-- крычаў папугай Шура і заканчваў,-- Взять под стражу!». Адзін злодзей, самы старэйшы з налётчыкаў, тут жа схапіў інфаркт і памёр на месцы злачынства, два маладзейшыя «сябры» са страху выскачылі з балкона ў двор, дзе іх ужо чакала міліцыя.

Ідзе расследванне. Следчы раённай пракуратуры М. Конанаў жартуе, што папугай, магчыма, будзе прыцягнуты да суда ў якасці сведкі: трэба ж, маўляў, разабрацца, як і чаму злодзеі атрымалі шматлікія пераломы рук і ног і чэрапна-мазгавыя траўмы.

**Н. Чудзесаблін,**
*«Витебский курьер»*

## Хаваю ежу ад уласных дзяцей

Дабаўленыя пенсіі і зарплаты, пра якія распавядалі па радыё і тэлебачанні, ўжо ў сакавіку неяк раптоўна паменшалі, а цэны спадцішка пабольшалі. Зноў падаражэў хлеб. Буханка «кірпічыка» каштуе 132 рублі, падавога -- 112, батон без аднаго рубля сто. Вось і думай як тут жыць: ці неогул адмаўляцца ад белага хлеба ці пачынаць дзяліць яго на сям`ю па скібцы, як у блакадным Ленінградзе. А з другога боку язык не павернецца сказаць галоднаму дзіцяці: «Не бяры больш, чым адзін кавалак». Пачынаеш эканоміць, прыхоўваючы ад родных дзяцей. Такое жыццё і ў жахлівым сне не сніцца. Гэта жахлівы сон для беларусаў ужо рэальная ява.

**Я. Савойка**

**Гэты ўнікальны прыродны аб`ект -- пірамідальнага выгляду ядловец -- знаходзіцца ў в. Праходы, што ля Дзеркаўшчыны.**



Фота Ул. Скрабатуна

*Гумар*

# Рускія народныя казкі чытаюць новыя рускія

-- Узмахнула фея чароўнай палачкай і Папялушка ператварылася ў прыгажуню-прынцэсу,-- чытае новы рускі. Ён глядзіць на сябе ў люстэрка і невядома ў каго пытаецца: -- Цікава, колькі баксаў бярэ гэта фея за падобнае ператварэнне?

***

-- Сім-сім, адчыніся,-- сказаў багаты брат і адчыніў ўваход у пячору, а там золата -- вочы разбягаюцца,-- чытае новы рускі.

-- У абшчак сходняка трапіў, блін,-- у захапленні кажа ён.

І давай ён хапаць усё, што бачыў. Раптам чуе -- тупат. Разбойнікі вяртаюцца. Багацей хацеў выйсці ды патрэбныя словы забыўся,-- чытае ён далей.

-- Кранты табе,-- у адчаі хапаецца новы рускі за галаву. -- Пароль забыўся. Радыётэлефон з сабой? Тэлефануй у КДБ яны ўсё ведаюць.

***

Узяў папа Карла палена. Тапаром раз па ім даў, другі...»

-- О, яшчэ адзін прадпрымальнік адшукаўся,-- здзекліва ўсміхаецца новы рускі -- Падаткамі задушаць, дурань. Ты б гэта палена за кардон піхнуў, а адтуль які «Дабл міт» без цукру прывёз.

Чытае далей: «Прадаў папа Карла куртку.

-- О, я ж казаў, апошнія штаны здымуць прад-пр-рымальнік, -- смяецца новы рускі.

***

Новы рускі чытае казку пра царэўну-жабу: «І прыехала яна ў залатой карэце. І была яна прыгажуняй. Блішчэла на ёй парчовае адзенне».

-- О, гэта ўжо цікавей, -- з задавальненнем трэ рукі новы рускі.

-- Інтэрдзяўчынкі пайшлі.

**Галіна Сяброва**




**Вы ведаеце чаму ў нас такі добры настрой? Усё проста. Мы толькі што прачыталі незалежную рэгіянальную газету «Вольнае Глыбокае».**

**Чытачы і жыхары паўночна-заходняга рэгіёна Беларусі могуць бясплатна змясціць тут сваю рэкламу, віншаванні і пажаданні блізкім, аб`явы аб куплі-продажы.**


КУЛЬТУРА

# СУСТРЭЧА З ІГАРАМ ПРАКАПОВІЧАМ

**Яна адбылася ў раённай бібліятэцы 9 красавіка і сабрала не толькі прафесіяналаў -- паэтаў, празаікаў, гумарыстаў, але і аматараў жыватворнага роднага слова.**

Кароткі ўступ у біяграфію і творчасць суседа-паставаўчаніна Ігара Пракаповіча зрабіла бібліятэкар Жана Юркевіч. Затым свае творы чытаў сам Ігар Пракаповіч. Яго падтрымалі Галіна Сутула, Фама Ляшонак, Уладзімір Сауліч, Станіслаў Лось. Былі пытанні і адказы, успаміны. Адным словам, у цесным сяброўскім коле і аўтары, і слухачы добра разумелі адзін аднаго.

Што ж датычыць Ігара Пракаповіча, то ён па-першае, малады, прыгожы мужчына, па-другое, сціплы чалавек, па-трэцяе і сапраўды не пакрыўджаны Богам на талент.

Нарадзіўся Ігар Міхайлавіч у Паставах. Скончыў школу, потым падтрымалі геаграфічны факультэт БДУ. Працуе настаўнікам геаграфіі на радзіме. У яго шмат захапленняў. Ён піша артыкулы па гісторыі, займаецца краязнаўствам, вядома ж, геаграфіяй, літаратурнай справай. У 1994 годзе выйшла ў свет яго «Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна». Фонд Сапегі дапамог у выданні кнігі «Адкуль паходзяць назвы». Падрыхтаваны рукапіс «Назвы паселішчаў». Ігар Пракаповіч член Вучонага Савета геаграфічнага таварыства. Скончыў аспірантуру. Працуе над дысертацыяй. Мае званне «Лепшага настаўніка вобласці». Акрамя навуковай працы значнае месца ў жыцці займае паэзія. Пачатак літаратурнай працы прыходзіцца на канец 70-х.

Ігар Міхайлавіч за гэтыя гады стаў прафесіяналам-літаратарам. Ён быў удзельнікам першых літаратурных семінараў, а сёння ён сам арганізоўвае іх, збірае на сваёй Радзіме і вопытных майстроў слова, і пачынаючых. Друкаваўся ў «Маладосці», «ЛіМе», «Чырвонай змене». З`яўляецца лаўрэатам прэміі часопіса «Маладосць», аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў. Ён добра грае і спявае на гітары. Дзесяць песень у яго выкананні гучаць час ад часу ў радыёэфіры.

Сустрэча з Ігарам Пракаповічам яшчэ раз пераканала прысутных у тым наколькі багаты талентам беларуская зямля.

**Г. Бялята.**



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У рэдакцыі газеты «Витебский курьер» будзе працаваць «прамая лінія».**

Кожны аўторак з 17-00 да 18-00 па тэлефоне **37 76 82**. Вы зможаце звярнуцца да прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэта з інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць кансультацыю.

**На праблемах парушэння правоў чалавека Вы зможаце звяртацца і па тэлефонах 2 37 54 ў Глыбокім, 2 14 28 у Браславе, 2 27 58 у Паставах.**

**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**


«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- друкаваны аркуш. Падпісана ў друк 14 красавіка 2000 года ў 12-43.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 12

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 2632